




МІНСКІ ОРДЭНА ПРАЦОЎНАГА ЧЫРВОНАГА СЦЯГА ДЗЯРЖАЎНЫ
ПЕДАГАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ імя А.М.ГОРКАГА

# СЛОЎНІК ВАКАЛЬНА-ХАРАВЫХ ТЭРМІНАЎ

Мінск 1993

Друкуецца ў адпаведнасці з рашэннем рэдакцыйна-выдавецкага савета МДПІ імя А.М.Горкага.

Складальнікі: І.М.Сіманоўская
У.У.Собалеў
Н.Р.Мордас

Слоўнік дае тлумачэнне вакальна-харавых тэрмінаў і словазлучэнняў, якія найбольш часта ўжываюцца ў прафесійнай практыцы выкладання вакальна-харавых дысцыплін.

Прызначаны студэнтам і выкладчыкам музычных навучальных устаноў у якасці дапаможніка.



# ПРАДМОВА

У наш час, калі адбываецца працэс нацыянальнага адраджэння культуры Беларусі, у навучальных установах рэспублікі значна пашырылася выкладанне шэрагу дысцыплін, у тым ліку музычных, на беларускай мове. У сувязі з гэтым павялічылася патрэба ў спецыяльных выданнях, якія б аблягчалі працу выкладчыкаў, дапамагалі тым, хто слаба валодае беларускай мовай. Але, на жаль, такіх дапаможнікаў па музычнай лексіцы вельмі мала.

Галоўнае прызначэнне нашага слоўніка заключаецца ў тым, каб растлумачыць сэнсавы бок некаторых музычных тэрмінаў, даць тое, што дастаткова для іх разумення. Слоўнік не мае на мэце ахапіць усю музычна-педагагічную тэрміналогію. Яго змест абмежаваны вузка-спецыяльнымі тэрмінамі вакальна-харавога мастацтва.

У слоўніку растлумачана каля 200 слоў і словазлучэнняў, якія найбольш часта ўжываюцца ў працэсе выкладання такіх вакальна-харавых дысцыплін, як дырыжыраванне, пастаноўка голасу, харавы клас, хоразнаўства. Выкарыстанне дапаможніка аблегчыць працу над музычным творам на роднай мове, дапаможа больш дасканала і дакладна ахарактарызаваць музычныя вобразы, эмацыянальныя станы, якія найбольш адпавядаюць характару музыкі.

Словы, якія тлумачацца, размешчаны ў алфавітным парадку.

Структура слоўнікавых артыкулаў уключае наступныя элементы:

а/ загаловачнае слова;

б/ этымалагічную даведку /калі слова запазычанае/;

в/ сэнсавую характарыстыку.

У этымалагічнай даведцы даецца паходжанне таго ці іншага слова і яго пераклад з замежнай мовы на беларускую. Запазычаныя словы друкуюцца з той жа арфаграфіяй, якая прынята для дадзенай мовы.

У сэнсавай характарыстыцы коратка фармулюецца рэальнае значэнне слова. Калі слова мае некалькі значэнняў, то яны адзначаюцца лічбамі.

Складальнікі слоўніка спадзяюцца, што яго выкарыстанне ў прафесійнай практыцы на ўроках музыкі ў школе і на занятках у музычных установах дапаможа лепш авалодаць вакальна-харавой тэрміналогіяй і паспяхова выкладаць на роднай мове.

1. Абедня — ранішняе набажэнства, літургія ў праваслаўнай царкве /на славянскай мове/, адпавядае каталіцкай месе.

2. Абертоны — /ням. Obertöne - верхнія тоны/ — гарманічныя сугуччы, прыгукі, якія ўваходзяць у склад асноўнага тону і ўзнікаюць ад хістанняў частак гучальнага цела. Абертоны заўсёды вышэй асноўнага тону.

3. Аве Мария — /лац. Ave Maria — прывітанне табе, Марыя/ — музычны твор на тэкст каталіцкага гімна ў гонар дзевы Марыі.

4. Агогіка — /грэч. agoge - рух/ — адзін са сродкаў выразнасці музычнага выканання, які заключаецца ў караткачасовых адхіленнях ад роўнага тэмпу і строгага рытму ва ўмовах іх захавання ў цэлым.

5. Аднародны хор — хор, складзены толькі з мужчынскіх або толькі з жаночых ці толькі з дзіцячых галасоў.

6. Акадэмічны — у прымяненні да хору часта вызначае яго жанравае адрозненне ад хору народнай песні; часам замяняецца назвай "хор агульнага тыпу".

7. Акампанемент — /франц. accompagnement - суправаджэнне/ — харавыя спевы, якія выконваюцца ў суправаджэнні якога-небудзь музычнага інструмента або аркестра.

8. А капэла — /іт. у стылe капэлы/ — харавыя /ансамблевыя/ спевы без інструментальнага суправаджэння. Вышэйшы від харавога выканання, у якім хор выяўляе сябе з поўнай самастойнасцю і закончанасцю.

9. Акорд — /франц. accord — згода/ — адначасовае спалучэнне некалькіх не менш 3-х розных па вышыні гукаў.

10. Акцэнт — /лац. accentus — націск/ — вылучэнне, падкрэсліванне гуку або акорда: дынамічнае, рытмічнае, тэмбравае; у вакальнай методыцы таксама падкрэсліванне найбольш значнага па сэнсе слова або склада пры вымаўленні тэксту.



11. Алілуйя — /грэч. allilujа, ад стар.-яўр. - Усхваляйце Яхве /бога/ — хвалебны прыпеў у хрысціянскім набажэнстве, а таксама самастойны гімн, напрыклад, хор амерыканскага кампазітара В. Томпсана.

12. Альт — /лац. altus — высокі; у сярэдневяковай музыцы вышэй тэнара/ — партыя ў хоры або ансамблі, складзеная з нізкіх і дзіцячых або сярэдніх і нізкіх жаночых галасоў /меццa-сапрана — першыя альты, кантральта — другія альты/, найбольш ужывальны дыяпазон ад ЛЯ малой актавы да РЭ другой актавы.

13. Альтэрацыя — /лац. alteratio — змяненне/ — павышэнне або паніжэнне вышыні гуку на паўтона або тон /не змяняючы пры гэтым назвы гуку/ пры дапамозе знакаў дыез, дубль-дыез, бемоль, дубль-бемоль, бекар. Інтэрвал або акорд, які змяшчае альтэрыраваныя гукі, называецца альтэрыраваным.

14. Аля Брэве — /іт. alla breve - скарочаны/ — выкананне музыкі /адлік далей, дырыжыраванне/, напісанай у 4-чвэртным памеры — на "два" /пры гэтым складаны такт ператвараецца ў просты 2-дольны/, таксама ў 8-чвэртным памеры — на "чатыры" /вялікае "А.б."/.

15. Аналіз харавой партытуры — адзін з кампанентаў яе вывучэння дырыжорам, неабходная ўмова для паспяховай рэпетыцыйнай работы. А.х.п. практыкуецца як вусна, так і пісьмова, у выглядзе анатацыі або падрабязнага разбору твора. Звычайна ўключае: а/агульныя звесткі пра твор і яго аўтараў; б/ аналіз літаратурнага тэксту і яго выка-

рыстанне кэмпазітарам; в/ аналіз музычна-выразных сродкаў; г/ вакальна-харавы аналіз; д/ выканаўчы план.

16. Анатацыя — /лац. annotatio - заўвага/ — кароткае выкладанне зместу музычнага твора. Гл. Аналіз харавой партытуры.

17. Ансамбль — /фр. ensemble - разам/ — узгодненасць выканання пры калектыўных спевах, ігры на музычных інструментах, адзін з элементаў харавой гучнасці. Адрозніваюць ансамбль прыватны — асобнай харавой партыі /гл. Унісон/ і агульны — узгодненасць усіх партый; той і другі — сукупнасць асобных ансамбляў: інтанацыйнага, арфаэпічнага.

18. Антыфон — /грэч. anti - супраць, phone - гук, супрацьгучанне/ — папераменныя спевы 2-х хароў або саліста і хору.

19. Апора — тэрмін, які ўжываецца вакалістамі для характарыстыцы асаблівай якасці пеўчага гуку, яго ўстойлівасці, гучнасці, глыбіні /аперты гук/, а таксама манеры гукавымання /у спяванні на апоры/.

20. Араторыя — /лац. oro — гавару, малю/ — буйны музычны твор для хору, салістаў, аркестра; складаецца з вакальных ансамбляў, арый, рэчытатываў, аркестравых нумароў. Ад кантаты адрозніваецца больш буйным памерам, разгорнутым сюжэтам, эпіка-драматычным характарам; ад оперы — перавагай апавядальнага элемента над драматычным развіццём.

21. Арганны пункт - гук, больш або менш працягла вытрымліваемы або паўторны ў басе, у той час як верхнія галасы рухаюцца гарманічна незалежна ад баса. Будуецца часцей за ўсё на дамінанце або тоніцы ці на тоніцы і дамінанце адначасова /двайны арганны пункт/.



22. Арнаментыка — /лац. ornamentum - упрыгожванне/ — сукупнасць гукаў, якія ўпрыгожваюць асноўны меладычны малюнак. Арнаментыка бывае двух тыпаў: а/ мелізмы — невялікія меладычныя ўпрыгожванні, устойлівыя па форме /групэта, фаршлаг, трэль/; б/ свабодная арнаментыка ў выглядзе фігурацый, звычайна выпісаных дробнымі нотамі.

23. Арфаэпія — /грэч. orthos - правільна, epos - мова/ — правільнасць вымаўлення тэкста.

24. Артыкуляцыя — /лац. articulatio - расчляняю/ — спосаб выканання гукаў пры спевах і ігры на музычных інструментах з той ці іншай ступенню звязнасці або расчлянёнасці, напрыклад legato /іт. звязана/, staccato /іт. адрывіста/, non legato /іт. не звязана/. Артыкуляцыя /часам яе называюць прыёмамі гукавядзення, або штрыхамі/ — адзін з важных сродкаў выразнасці музычнага выканання.

25. Атака — /іт. attaccare - нападаць/ — у вакальнай методыцы пачатак гуку. Атака бывае цвёрдая /пры якой галасавыя звязкі шчыльна змыкаюцца да пачатку выдыху/, мяккая /звязкі змыкаюцца менш шчыльна з пачаткам выдыху/, прыдыхальная /звязкі змыкаюцца няшчыльна пасля пачатку выдыху/.

26. Ауфтакт — /ням. auf - над і лац. tactus - дакрананне/ — замах, папярэдні ўзмах, жэст, імпульс — спецыфічны дырыжорскі жэст, які папярэджвае і арганізуе выкананне ў плане тэмпу, рытму, дынамікі, штрыха, пачатку, заканчэння, фермат.

-Б-

1. Балада — /лац. ballo - танцую/ — першапачаткова /у сярэдні вякі/ танцавальная песня, пазней — песня апавядальнага харак-

тару, у XIX ст. — твор /літаратурны, музычны/ фантастычнага або драматычнага характару з паслядоўным раскрыццём сюжэта.

2. Баркарола — /іт. barca – лодка/ — песня лодачніка, рыбака; п'еса пявучага характару, роўнага тэмпу; памер звычайна $\frac{6}{8}$.

3. Барытон — /грэч. barus – цяжкі, нізкі і tonos – тон/ — сярэдні мужчынскі голас. Адрозніваюць барытон лірычны /па лёгкасці гуку прыбліжаны да тэнара/ і драматычны /па шырыні і магутнасці блізкі да баса/. У хоры барытоны ўваходзяць у партыю першых басоў: дыяпазон СОЛЬ вялікай актавы — ФА 1 актавы.

4. Басо астынато — /іт. basso ostinato – упорны бас/ — меладычная фігура, якая бесперапынна паўтараецца ў басовым голасе музычнага твора. Тэрмін basso ostinato прымяняецца і ў адносінах да верхняга голасу /сапрана/.

5. Бас — /іт. basso – нізкі/ — самы нізкі мужчынскі голас. Адрозніваюць бас кантантэ /глыбокі/, або нізкі. Партыя басоў у хоры або вакальным ансамблі складаецца з барытонаў і ўласна басоў. Дыяпазон /без актавістаў/ ФА вялікай актавы — ФА 1 актавы. Прымяненне актавістаў пашырае дыяпазон партыі на актаву ўніз.

6. Батута — /іт. battere – стукаць/ — жазло/палка/, якою на раннім этапе дырыжорскага мастацтва дырыжор стукаў аб пол або па пюпітры, кіруючы хорам або аркестрам.

7. Бельканто — /іт. bel canto – цудоўнае спяванне/ — стыль вакальнага выканання, які ўзнік у XVII ст. з развіццём італьянскай оперы. Характарызуецца пявучасцю, паўнатой /спевамі на "аоры"/, рухавасцю.



–В–

1. Вакаліз — /фр. vocalise ад лац. vocalis – галосны/ — практыкаванне, эцюд або канцэртная п'еса для голасу; выконваецца без тэксту, на які-небудзь галосны гук, часцей за ўсё — на прыкрытае А, часам — з закрытым ротам.

2. Вакалізацыя — спяванне на галосных гуках; часта сустракаецца ў харавых творах; ужываецца ў практыкаваннях пры распеўцы і як прыём у працэсе вывучэння твораў на розныя гукі.

3. Варыяцыі /тэма з варыяцыямі/ — музычная форма, утвораная выкладам тэмы і паслядоўнымі відазмененымі паўторамі. Варыяцыі бываюць строгія і свабодныя.

4. Вібрацыя — /іт. vibrato – хістанне/ — перыядычныя змены гуку па вышыні, сіле, тэмбру.

5. Вышыня гуку — якасць музычнага гуку, якая залежыць ад частаты хістанняў гучальнага цела. У музычным выкананні выдзяляюць вышыню абсалютную і адносную.

–Г–

1. Гама — гукарад у межах актавы. Назва паходзіць ад грэчаскай літары Гамы, якая азначала ў сярэднявяковай тэорыі музыкі самы нізкі гук — соль вялікай актавы.

2. Гамафонія — /грэч. homos – агульны, узаемны і phone гук, голас/ — від шматгалосся, пры якім адзін з галасоў /звычайна верхні/ — галоўны /мелодыя/, а астатнія — другарадныя /акампаніруючыя/.

3. Галасавядзенне — 1/ рух кожнага голасу ў шматгалосным творы; 2/ суадносіны некалькіх рухаючых галасоў, адсюль — розныя віды галасавядзення: прамое /рух у адным напрамку/ і паралельнае /рух на аднолькавы па назве інтэрвал/, ус-

коснае і працілеглае.

4. Галасавы апарат -- орган, з дапамогай якога ўтвараюцца гукі; складаецца з наступных частак: а/гартань з галасавымі звязкамі /двюма мышачнымі складкамі/; б/дыхальны апарат -- поласці носа і рота, насаглоткі, гартані, дыхальнае горла -- трахея, лёгкія; в/ рэзанатары, якія ўзмацняюць і афарбоўваюць пеўчы гук, што ўзнікае пры ўзаемадзейнасці звязак і дыхання; г/ артыкуляцыйны апарат, які фарміруе галосныя і зычныя гукі.

5. Галаўшчык -- вядучы, найбольш вопытны спявак і кіраўнік старадаўняга рускага царкоўнага хору, знаўца пеўчых традыцый і крукавых нот. У далейшым /ХУП-ХУШ стст./ з узнікненнем партэсных спеваў, галаўшчык змяніўся рэгентам.

6. Галосныя -- гукі /мовы, спеваў/, якія вымаўляюцца голасам, даступныя моцнаму працяглому выкананню. У спевах галосныя з'яўляюцца носьбітамі вакальнага гуку, яго тэмбру. Галосныя фарміруюцца ў адпаведнасці з нормамі вымаўлення і патрабуюць прыкрыцця або акруглення.

7. Гармонія -- /грэч.harmonia - сувязь, стройнасць/ -- вобласць выразных сродкаў музыкі, заснаваная на заканамерным аб'яднанні тонаў у сугучча і на сувязі паслядоўнасці сугучча.

8. Гаудэамус -- старажытная студэнцкая песня на лацінскай мове /Gaudeamus igitur - Будзем радавацца/.

9. Генерал-бас -- /лац.generalis - агульны, галоўны/ -- 1/ старажытная назва вучэння аб гармоніі; 2/ тое самае, што "basso continuo" /іт. "беспарапынны бас"/ - ніжні голас партытуры з указаннем гармоніі, адзначаны лічбамі пад кожным гукам.

10. Генеральная паўза -- /лац.generalis / -- адначасовая паўза для ўсіх удзельнікаў ансамбля /звычайна раптоўная/ працягласцю не менш такта; скарочана абазначаецца лацінскімі літарамі G.P.



11. Генеральная рэпетыцыя -- апошняя поўная рэпетыцыя перад канцэртам /спектаклем/, агляд гатоўнасці праграмы.

12. Гетэрафонія -- /грэч.héteros - другі, phōnē - гук, голас/ -- сумеснае, у аснове аднагалоснае выкананне мелодыі з эпізадычна ўзнікаючымі, дзякуючы імправізацыі, сугуччамі /адхіленнямі ад унісона/.

13. Гігіена голасу - захаванне спеваком пэўных правіл паводзін /пеўчы рэжым/.

14. Гімн -- /грэч.hymnos / -- урачыстая, хвалебная песня. Жанр выкарыстоўваецца ў хорах, операх, сімфанічнай творчасці.

15. Глас -- /старaслав./ -- лад у музыцы праваслаўнай царквы. Усяго мела месца 8 гласаў /адсюль асьмаглассе альбо васьміглассе/, якія адрозніваюцца характэрнымі папеўкамі, ладавай асновай, гукарадам.

16. Глісандо -- /іт., ад франц. glisser - слізгаць/ -- асаблівы прыём выканання, які змяшчае у сабе паступовае перамяшчэнне гуку голасам або на інструменце ўверх або ўніз без выдзялення асобных прамежкавых ступеняў. У спевах называецца таксама партамэнто і ўжываецца у хоры ў спецыфічных выразных мэтах.

17. Голас -- 1/ кожная з меладычных ліній у гарманічнай або паліфанічнай музыцы; 2/ асобная партыя ў хоры, ансамблі, аркестры; 3/ галасы -- асобныя партыі харавой або аркестравай партытуры.

18. Голас пеўчы -- сукупнасць пеўчых гукаў, якія ўтвараюцца пры дапамозе галасавога апарата. Пеўчым голасам таксама называецца здольнасць спяваць. Адным з найлепшых сродкаў, што дапамагае развіццю голасу, з'яўляюцца харавыя спевы.

19. Гукавядзенне — гл. Артыкуляцыя.

20. Гукаўтварэнне — /фанацыя, ад грэч. phōnē - гук/ — атрыманне пеўчага і моўнага гуку, вынік дзейнасці галасавога апарата. Пеўчы гук, які ўзнікае ў выніку хістання галасавых звязак, узмацняецца і тэмбрава абагачаецца дзякуючы рэзанатарам.

21. Грыгарыянскі харал — назва напеваў у каталіцкай царкоўнай музыцы, па паданню кананізаваных папам Рыгорам 1 на мяжы У1-УП ст. Грыгарыянскі харал выконваўся мужчынскім хорам ва унісон.

-Д-

1. Дадэкафонія — /грэч. dōdeca - 12 і phōnē - гук/ — метад музычнай кампазіцыі, заснаваны на адмаўленні ладавых сувязей паміж гукамі і сцвярджэнні раўнапраўя 12 тонаў храматычнай гамы /без адрознення устойлівых і няўстойлівых тонаў і без выдзялення тонікі/. Асновай дадэкафонных твораў з'яўляецца серыя /метад А.Шонберга/ або троп /метад І.М.Хаўэра/.

2. Двайны хор — 1/ хор, падзелены на дзве часткі, кожная з каторых выконвае адносна самастойную партыю, часткі могуць уяўляць сабой як змешаны састаў /поўны і няпоўны/, так і аднародны; 2/ творы для хору, падзеленага на дзве часткі.

3. Дзіцячы голас — голас, які з прычыны спецыфічнасці галасавога апарату /кароткія і тонкія галасы, звязкі, малая ёмістасць лёгкіх і г.д./ адрозніваецца ад голасу дарослых спевакоў; яму уласцівы "высокае" /галоўнае/ гучанне, меншы дыяпазон, характэрная мяккасць, "серабрыстасць" тэмбру /асабліва у хлапчукоў/, абмежаванасць сілы гуку.

4. Дойна — жанр народнай песні у Малдове і у Румыніі.



5. Думка — — назва некаторых вакальных і інструментальных п'ес.

6. Дывізі — /іт. divisi - падзеленыя/ — часовае падзяленне харавых партый на 2, 3 і больш галасоў. Ужыванне дывізі гарманічна насычае харавое выкладанне і у той жа час аслабляе моц гучання.

7. Дыес ірэ — /лац. Dies irae - дзень гневу/ — 1/ сярэдневяковае каталіцкае песнапенне /секвенцыя/, якое апавядае пра дзень "страшнага суда"; 2/ адзін з раздзелаў рэквіема.

8. Дыкцыя — /лац. dictio - вымаўленне гукаў/ — выразнасць, разборлівасць вымаўлення тэксту. Добрая дыкцыя — абавязковая умова вакальнага, у тым ліку харавога, выканання. Для выразнасці дыкцыі вялікае значэнне мае асэнсаванасць вымаўлення, спевы на памяць.

9. Дынаміка — /грэч. dynamis - сіла/ — сукупнасць з'яў, звязаных з сілай гучання. Гл. Нюансы.

10. Дырыжор — /фр. diriger - кіравацъ/ — кіраўнік калектыўнага выканання музыкі. Дырыжор з дапамогай розных сродкаў уздзеяння на калектыў /жэст, погляд, а на рэпетыцыі — слова, паказ/ ажыццяўляе праз яго сваю творчую задуму — уяўляемую "мадэль" выканання. Дырыжор паказвае спевакам тэмпы, нюансы, фразіроўку і г.д.

11. Дырыжыраванне — мастацтва кіраўніцтва калектыўным выкананнем музыкі /аркестрам, хорам, ансамблем/; ажыццяўляецца спецыяльнай асобай — дырыжорам /капельмайстарам, хармайстарам/. Мастацтва дырыжыравання заснавана на сістэме жэстаў, якая развілася гістарычна і грунтуецца на агульназразумелых рухах, што сустракаюцца у жыццёвай практыцы.

12. Дысананс — /лац. dissono - незладжана гучу/ — сугучча, якое выклікае адчуванне няўзгодненасці і імкненне да разбурэння — кансанан-

сау. Дысананс — адзін з важных сродкаў музычнай выразнасці.

13. Дыскант — /лац. dis – прыстаўка, якая азначае расчляненне, спевы/ — 1/ высокі дзіцячы голас, які адпавядае па дыяпазоне сапрана; 2/ партыя ў хоры або вакальным ансамблі, якая выконваецца высокім дзіцячым голасам; 3/ верхні саліруючы голас — падгалосак /"дышкант"/ у некаторых народных песнях.

14. Дыстанцыя — /грэч. dis – адмоўная прыстаўка "не", tonos – тон, напружанасць/ — тэрмін, якім іншы раз азначаюць фальшывае інтаніраванне ў бок павышэння.

15. Дыханне /пеўчае/ — найважнейшы элемент пеўчага працэсу. У вакальнай метадыцы прынята змешанае або ніжнерэбернадыяфрагмальнае дыханне, калі пры глыбокім удыху рассоўваюцца ніжнія рэбры, апускаецца дыяфрагма; плечы і верхняя частка тулава нерухомыя.

16. Дыяпазон — /грэч. dia pason – праз усе струны/ — гукавы аб'ём голасу /інструмента/ ад самага ніжняга да самага верхняга гуку.

17. Дэтанацыя, дэтаніраванне — /фр. détonner – фальшыва спяваць/ — недакладнае па вышыні выкананне, па-за межамі зоны гуку, часам гэтым тэрмінам абазначаюць нізкае інтаніраванне у адрозненне ад дыстанцыі, павышэння.

18. Дэфект пеўчага гуку /таксама манеры спеваў/ — трэмаляцыя і хістанне, белы гук, гарлавы гук, нізкая пазіцыя, фарсіраванне, гугнявасць, "пад'езда" — партамэнта, фальшывая інтанацыя, стракатасць гучання, недахопы вымаўлення.

–І–

1. Індыспазіцыя — /лац. indisposilus – бязладны/ — тэрмін, які ўжываецца ўрачамі-фаніятарамі і азначае нясхільнасць да спеваў з прычыны стомленасці галасавога апарату і з'яўляецца адной з прыкмет захворвання голасу.



2. Інтанацыя — /лац. intono – гучна вымаўляю/ — у шырокім сэнсе — увасабленне мастацкага вобраза ў музычных гуках. У вузкім сэнсе — а/ меладычны абарот, найменшая частка мелодыі, якая мае выразнае значэнне; б/ варыянт выканання гуку ці інтэрвала голасам або на інструменце без фіксаванай вышыні гукарада.

3. Інтаніраванне — усвядомленае ўзнаўленне музычнага гуку голасам або на інструменце.

4. Інтэрвал — /ад лац. intervallum – адлегласць/ — спалучэнне 2-х гукаў: паслядоўнае /меладычны інтэрвал/ або адначасовае /гарманічны інтэрвал/. Назва інтэрвала вызначаецца лікам ступеняў гукарада, якія ахопліваюцца інтэрвалам, велічыня — лікам тонаў і паўтонаў, што ўваходзяць у інтэрвал.

5. Інтэрпрэтацыя — /лац. interpretatio – тлумачэнне/ — тлумачэнне, якое дае выканаўца музычнаму твору.

–Ж–

1. Жаночы хор — хор, складзены з жаночых галасоў: сапрана, меццa-сапрана, кантральта. Жаночы хор звычайна складаецца з першых і другіх сапрана і альтоў.

2. Жанр — /фр. genre – род, тып, манера/ — від твора пэўнага мастацтва, які вызначаецца асаблівымі, толькі яму ўласцівымі прыметамі, звязанымі з паходжаннем, спосабам і ўмовамі выканання і ўспрымання. У шырокім сэнсе гэты тэрмін ужываюць да опернай, сімфанічнай, харавой музыкі, у вузкім сэнсе — да разнавіднасцей гэтых асноўных раздзелаў /напр., харавая песня, мініяцюра, хор буйной формы; апрацоўка, пераладжэнне; кантатна-аратарыяльны./

–З–

1. Заглушэнне — лячэбны прыём, што ўжываецца ў фаніятрыі, сутнасць якога заключаецца ў заглушэнні

для спевака гучання ўласнага голасу /пры дапамозе спецыяльнай прылады/. Мэта заглушэння — парушыць няправільныя сувязі, усталяваныя паміж слыхам спевака і яго мышачнымі адчуваннямі.

2. Задаванне тону — папярэдняе /нямоцнае/ прапяванне дырыжорам /а таксама прайграванне на інструменце або пры дапамозе тонара/ аднаго або некалькіх гукаў для настройкі хора ў танальнасці выконваемай п'есы.

3. Закрыты рот, спевы з закрытым ротам — вельмі распаўсюджаны каларыстычны прыём у харавым выкананні. Часта ўжываецца як акампанемент саліству, а таксама пры выкананні п'ес інструментальнага характару, харавых пералажэнняў. У партытуры абазначаецца спецыяльным указаннем /"закрытым ротам"; літарамі м, мм..., гмм.../.

4. Запеў — пачатак харавой песні, які выконваецца адным або некалькімі спевакамі /запявааламі/, пасля чаго ўступае хор.

5. Запявала — спявак, які выконвае запеў харавой песні.

6. Змешаны хор — калектыў спевакоў, які складаецца з разнародных /мужчынскіх, жаночых або дзіцячых/ галасоў: сапранаў, альтоў, тэнараў, басоў.

7. Знак дыхання /коска, "галачка"/ — у творах для спеваў /хорах, партытурах, партыях/ азначае змену дыхання. Такім знакам служыць таксама заканчэнне лігі, пастаўленай над музычнай фразай.

8. Знаменны распеў — сістэма старажытных праваслаўных культавых напеваў /ХП–ХУП стст./; назва паходзіць ад старажытнаславянскага "знамя" — пеўчы знак /гл. Крукі/. Знаменны распеў заснаваны на сістэме асьмагласся /гл.Глас/ Знаменнае спяванне — аднагалоснае /у пачатку/, харавое, а капэла ; мелодыя дыятанічная ў межах кварты або квінты з пастаўленным рухам; рытм несіметрычны.



9. Знятце гука /дырыжыраванне/ — спыненне гучання /адзінага голасу, групы, усяго ансамбля/ пры дапамозе спецыяльнага дырыжорскога жэста.

10. Зона — /грэч. zōnē – пояс/ — вобласць /паласа гукавых хістанняў/, у межах якой гук або інтэрвал могуць мець розныя лічбавыя выражэнні /у выглядзе лічбы хістанняў, захоўваючы пры гэтым сваю якасць і назву/.

–К–

1. Каларатура — /лац. coloro – афарбоўваю/ — хуткія віртуёзныя пасажы /гамы, арпеджыі/ і мелізмы, якія ўпрыгожваюць вакальную партыю /адсюль тэрмін — каларатурнае сапрана/.

2. Калядка — /грэч. calendae – першы дзень месяца/ — старажытная калядка — наваголняя абрадавая песня ў народаў Усходняй Еўропы, пераважна ў славян. Мелодыя калядкі заснавана на шматразовым паўторы невялікага напева.

3. Камерныя хоры — /ням. Kammer – пакой/ — вакальныя калектывы адносна невялікага саставу, якія валодаюць якасцямі, што ўласцівы камерным выканаўцам: асаблівай тонкасцю, дэталізацыяй выканання, дынамічнай і рытмічнай гібкасцю.

4. Камертон — /ням. Kammer – пакой, Ton – гук/ — крыніца гуку /у выглядзе металічнай вілкі і інш./, якая служыць эталонам вышыні пры настройцы музычнага інструмента і спеваў. Звычайна ўжываецца камертон у тоне ЛЯ1акт.

5. Кампліментарны рытм — /ад лац. complementum – дапаўненне/ — рытмічнае запаўненне ў акампанеменце вытрыманых нот мелодыі, пераважна ў заканчэннях.

6. Канон — /грэч. canon – норма, правіла/ — паліфанічная музычная форма, заснаваная на стро-

гай безупыннай імітацыі, пры якой галасы паўтараюць мелодыю вядучага голасу, які ўступае раней, чым яна скончыцца ў папярэдняга.

7. Кансананс — /фр. ад лац.consonantia - зладжанае гучанне/ — узгодненае спалучэнне гукаў у адначасовасці /у процілегласць дысанансу/.

8. Кант — /лац. cantus - спяванне, песня/ — від старажытнай харавой або ансамблевай песні а капэла. Прыкметы канта: куплетная форма, рытмічная выразнасць і плаўнасць мелодыі; пераважна 3-х галосны склад з паралельным рухам 2-х верхніх галасоў.

9. Кантар — /лац. cantor -спявак/ — пеўчы ў каталіцкай царкве, у сінагоге — галоўны спявак, у пратэстантаў — настаўнік і дырыжор хору, арганіст, у абавязкі якога ўваходзіла і стварэнне музыкі для царквы.

10. Кантата — /іт.cantare - спяваць/ — твор для спевакоў-салістаў хору і аркестру, урачыстага або лірыка-эпічнага характару. Кантаты могуць быць харавымі /без салістаў/, камернымі /без хору/, з суправаджэннем або без суправаджэння.

11. Кантральта — /іт.contralto - нізкі жаночы голас, дыяпазон ад ФА малой актавы да ФА II актавы/, у хоры — партыя другіх альтоў.

12. Кантус фірмус — /лац.cantus firmus/ нязменная мелодыя/ — вядучая мелодыя ў паліфанічным творы / у старажытнай музыцы/, якая гучала неаднаразова ў нязменным выглядзе.

13. Кантылена — /лац.cantilena - песня/ — пявучая мелодыя, пявучасць музычнага выканання, пеўчага голасу.

14. Канцэрт — /лац.concerto -состязаюсь/ — 1/публічнае выкананне музычных твораў па пэўнай праграме /сімфанічныя, сольныя, харавыя/; 2/ музычныя творы віртуознага характару для салістаў і аркестру; 3/ форма паліфанічнай, вакальнай або вакальна-інструментальнай музыкі, заснаваная на супрацьпастаўленні саліруючых галасоў, хору, інструментальнага ансамбля.



15. Канцэртмайстар — /ням.Konzertmeister / — піяніст, які дапамагае салістам развучваць іх партыі, акампаніятар /салісту, хору/.

16. Капэла — /лац. cappella / — харавы калектыў, у сярэднія вякі — каталіцкая капліца або бакавы алтар у царкве, дзе размяшчаўся хор, пазней гэта назва замацавалася за хорам. Першапачаткова капэлы былі толькі вакальнымі без удзелу інструментаў, адсюль тэрмін а капэла.

17. Капельмайстар — /ням.Kappelmeister- майстар капэлы/ — першапачаткова кіраўнік вакальнай і інструментальнай капэлы, пазней — дырыжор тэатральнага, сімфанічнага, ваеннага аркестра.

18. Ключ — спецыяльная адзнака на натаносцы, якая вызначае вышыню і назву гуку на адной з яго лінеек і тым самым усіх гукаў, запісаных на натаносцы. Існуюць ключы ДО, СОЛЬ ФА, якія вызначаюць ДО і СОЛЬ 1 актавы і ФА малой актавы.

19. Комма — /грэч.comma - адрэзак/ — у музычнай акустыцы самы маленькі /менш за 1/8 паўтона тону/ інтэрвал, ледзь адрозніваемы слыхам.

20. Крукі — знакі безлінейнага пісьма, што ўжываліся для запісу царкоўнай музыкі, так званага знаменнага распеву.

21. Кульмінацыя — /лац.culmen - вяршыня/ — найбольш напружаны момант у развіцці музычнай формы /фразы, сказа, перыяду, усяго твора/.







22. Куплет — /фр.couplet / — частка песні, складзеная з аднаго правядзення ўсёй мелодыі і адной страфы паэтычнага тэксту. Звычайна будуецца ў выглядзе перыяда або простай 2-частковай формы, нярэдка ў выглядзе запеву і прыпеву.

-Л-

1. Лад — /слав. — стройнасць, згода/ — сістэма высотных сувязяў музычных гукаў, вызначаемых залежнасцю няўстойлівых гукаў ад устойлівых /апорных/. Існуе шмат ладоў, якія адрозніваюцца колькасцю гукаў, інтэрвальнымі суадносінамі, эмацыянальна-выразнымі магчымасцямі.

2. Ладатанальнасць - лад, выкладзены ў пэўнай танальнасці.

3. Лакрымоза — /лац.lacrima - сляза/ — частка рэквіема, якая завяршае яго асноўны раздзел Днес ірэ. Музыка лакрымозы адрозніваецца засмучаным характарам.

4. Ланцуговае дыханне — спецыфічнае харавое дыханне, пры якім спевакі змяняюць яго не адначасова, а як бы "ланцужком". Ланцуговае дыханне падтрымлівае безупыннасць гучання.

5. Лічыльная доля — адзінка музычна-выканаўчага часу /метра/; звычайна указваецца назоўнікам добра або лічбай тактавага памеру ў пачатку нотнага запісу.

6. Люфтпаўза — /ням. Luftpausa - паветраная паўза/ — невялікі перапынак гучання, які ўжываецца для выдзялення пачатку новай часткі або фразы і звычайна суправаджаецца неглыбокім удыхам.

-М-

1. Магніфікат — песнапенне каталіцкай царквы; у тэксце адлюстравана радасць дзевы Марыі, якая чакае нараджэнне Ісуса.



2. Мадрыгал — /лац.mater - маці/ — лірычная песня на роднай мове /у адрозненне ад песнапенняў на лацінскай мове/, першапачаткова аднагалосная, у эпоху Адраджэння — кампазіцыя паліфанічнага складу на 4-5 галасоў.

3. Масавая песня — песня, разлічаная на шырокае распаўсюджанне ў грамадстве.

4. Манодыя — /грэч.monodia - песня аднаго/ — аднагалоссе або групавыя спевы ў унісон або актаву.

5. Матэт — /фр. mot - слова/ — жанр духоўнай і свецкай вакальнай шматгалоснай музыкі.

6. Медыум — /лац.medius - сярэдні/ — тэрмін, які ўжываецца ў вакальнай педагогіцы для абазначэння сярэдняга ўчастку дыяпазону жаночых галасоў /у сапрана — 1 -ФА Ш актавы; у меццa-сапрана на тэрцыю ніжэй/.

7. Мелізмы — гл. Арнаментыка.

8. Мелодыя — /грэч.melodia - спяванне, напеў/ — музычная думка, перададаная аднагалосна. Мелодыя — асноўны выразны сродак музыкі, у якім аб'ядноўваюцца музычныя элементы музыкі: высотныя і рытмічныя суадносіны гукаў, тэмбр, дынаміка, артыкуляцыя.

9. Меса — /лац.Ite,messa est-"ідзіце, закончана служба" — заключныя словы старажытнай месы/ — шматчастковы твор для хору, салістаў, аркестра або хору а капэла на лацінскі тэкст каталіцкай літургіі /месы/. Музычная форма месы развілася з песнапенняў царкоўнай службы.

10. Метр — /грэч.metron - мера/ — паслядоўнае чаргаванне моцных і слабых доляў у рытмічным руху. Моцная доля стварае метрычны акцэнт, пры дапамозе якога музычны твор дзеліцца на такты. Метры бываюць простыя і змешаныя.

11. Метраном — /грэч. metron - мера, nomos - закон/ — прылада для вызначэння тэмпу. Адлік тактавых доляў выконваецца пры дапамозе маятніка з перасовачным гузікам і шкалы з дзяленнямі і лічбамі, якія паказваюць колькасць удараў маятніка ў хвіліну.

12. Меццо-сапрана — /іт. mezzo - сярэдні/ — сярэдні жаночы голас. Дыяпазон ЛЯ малой актавы - ЛЯ II актавы. Адрозніваюць высокае /лірычнае/ меццо-сапрана і нізкае. У хоры меццо-сапрана складаюць партыю першых альтоў.

13. Мізэрэрэ — /лац. miserere - злітуйся/ — каталіцкае песнапенне на тэкст 50-га псалма Давіда.

14. Мікст — /лац. mixtus - змешаны/ — рэгістр пеўчага голасу, пераходны паміж грудным і галоўным /фальцэт/ рэгістрамі.

15. Міміка — рух мышцаў твару як адлюстраванне псіхічных станаў.

16. Мнагагалоссе /шматгалоссе/ — склад музыкі, заснаваны на спалучэнні некалькіх самастойных галасоў /паліфонія/ або на спалучэнні галоўнага голасу і акампаніруючых галасоў /гамафонія/.

17. Мужчынскі хор — хор, складзены з мужчынскіх галасоў: тэнараў, барытонаў, басоў /у тым ліку актывістаў/.

18. Мутацыя — /лац. mutatio - перамена, змяненне/ — пераход дзіцячага голасу ў перыяд станаўлення ў голас дарослага.

—Н—

1. Народны хор — вакальны калектыў, які выконвае народныя песні з уласцівымі ім асаблівасцямі /харавая фактура, голасавядзенне, вакальная манера, фанетыка/.

2. Нюансы — /фр. nuance - адценне/ — дынамічныя адценні гуку /гл. Дынаміка, Акцэнт/.



3. Няпоўны хор — — змешаны хор без адной або двух разнародных партый.

—П—

1. Падгалоскі — — 1/варыянты — адгалінаванне асноўнага напева народнай песні; 2/пабочныя верхнія галасы, якія супрацьстаяць галоўнай мелодыі ніжняга голасу; 3/пабочныя вытрыманыя гукі ў якім-небудзь голасе, якія супрацьстаяць астатнім галасам.

2. Пазіцыя — /ад лац. positio - становішча/ — 1/тэрмін, які выкарыстоўваецца выкладчыкамі-вакалістамі /высокая П., нізкая П./. Пры высокай П. гук, з прычыны актывізацыі верхніх рэзанатараў, прымае звонкасць, лятучасць, інтанацыйную дакладнасць. Нізкая П. звязана з глухім, цяжкім і часта інтанацыйна нізкім гукам; 2/ становішча рук пры ігры на муз. інструменце.

3. Паланэз — /франц.-польскі/ — старажытны ўрачысты танец-шэсце польскага паходжання, памер 3-дольны.

4. Палітальнасць — /ад грэч. poli - літаральна многа танальнасцей/ — адначасовае спалучэнне ў многагалосай музыцы некалькіх танальнасцей.

5. Паліфонія — /ад грэч. poli - многа, phōnē - гук/ — від многагалосся, у якім адначасова спалучаюцца некалькі самастойных мелодый — галасоў, аб'яднаных пэўнымі для кожнага стылю нормамі сумеснага гучання. У залежнасці ад інтанацыйна-меладычных суадносін галасоў адрозніваюць П. імітацыйную, падгалосачную і заснаваную на спалучэнні розных мелодый /часам называюць кантрасной/.

6. Партамента — /ад іт. portare - пераносіць/ — у сольным спяванні і ігры на некаторых інструментах /гал. чынам смычковых/ — слізготны пераход ад аднаго гуку да другога.

7. Партэснае спяванне — /ад лац. partes — раздзяляць/ — від харавога спявання, распаўсюджаны ў праваслаўнай царкоўнай музыцы з 2-й паловы ХУП ст. Адметныя рысы П.с.: шматгалоссе, пераважна акордавага складу, з падзелам хору на гурты галасоў — харавыя партыі, спяванне без інструментальнага суправаджэння.

8. Партытура — /іт. partitura — падзел, размеркаванне/ — нотны запіс ансамблёвай музыкі, у якім зведзены партыі ўсіх галасоў /інструментаў/. У харавой П. зверху уніз — сапрана, альты, тэнары, басы.

9. Партыя — гл. Харавая партытура.

10. Пастаноўка голасу — распаўсюджаны сярод вакалістаў выраз, які азначае працэс індывідуальнага навучання спяванню.

11. Паэма — /грэч. poiema — твор/ — 1/невялікая лірычная п'еса для інструмента сола; 2/ буйны адначасткавы твор для аркестра пераважна з праграмным зместам /сімф. паэма/; 3/Вак.-сімф. твор, блізкі да кантаты і араторыі; 4/ харавы твор, для якога характэрна асаблівая значнасць, змест, эмацыянальнасць.

12. Паўза — /ад грэч. pausis — прыпынак, спыненне/ — перапынак гучання на вызначаную працягласць часа ў адным, некалькіх або ва ўсіх галасах музычнага твора.

13. Паўтон — найменшая адлегласць паміж двума гукамі ў еўрапейскай музыцы. У тэмпераваным строі актава падзелена на 12 роўныя паўтоны.

14. Пеўчая пастава — становішча, якое спявак павінен прыняць перад пачаткам фанацыі /гукавыманнем/.

15. Пераклад — гл. Аранжыроўка.

16. Перыяд — /грэч. periodos — кругаварачэнне/ — найменшая з кампазіцыйных форм /звычайна ў выглядзе завершанай поўным кадансам музычнай пабудовы/, якая выказвае больш-менш скончаную музычную думку. З'яўляючыся адначастковай простай формай, П. падзяляецца на сказы, фразы, матывы. Сказ — музычная пабудова, абмежаваная кадансам, адрозніваецца ад П. меншымі памерамі, меншай складанасцю і завершанасцю, фраза-абмежавана цэзурай, матыў — найменшы музычнасэнсавы элемент.



17. Песня — найбольш простая і распаўсюджаная форма вакальнай музыкі, якая аб'ядноўвае паэтычны вобраз з музычным. Характэрным для П. з'яўляецца прысутнасць завершанай самастойнасці пявучай мелодыі, прастата структуры. Музыка П. адпавядае агульнаму ўтрыманню тэксту, без яго дэталізацыі /напрыклад, у вельмі распаўсюджанай куплетнай П./. Існуюць народныя і прафесійныя /творы кампазітараў/ П., якія адрозніваюцца па жанрах, паходжанню, складах і г.д. Распаўсюджаным з'яўляецца жанр харавой П.: народная песня, сучасная масавая песня, асобныя хоры рус. і сав. кампазітараў, хар. П. замежных аўтараў.

18. Прыкрыццё гуку — настройка галасавога апарата, каб надаць пеўчаму гуку некаторую зацямнёнасць, мяккасць, глыбіню.

19. Пункцірны рытм — /лац. punctum — кропка/ — рытм, які заснаваны на чаргаванні доўгай і больш карацейшай /у 3, 7, 15 разоў/ноткі; у запісе доўгая нотка звычайна адлюстроўваецца нотай з кропкай /або з дзвюма і больш кропкамі/.

-Р-

1. Размяшчэнне хору — расстаноўка хору, пры якой звычайна аднародныя галасы групуюцца па харавых партыях. У змешаным хоры злева ад дырыжора змяшчаюцца сапрана, за імі тэнары, справа - альты, за імі басы.

2. Распяванне хору — вакальна-слыхавая настройка спевакоў у пачатку заняткаў або перад канцэртам з мэ-

тай падрыхтаваць кожнага спевака і ўвесь хор да працы над рэпертуарам і да канцэртнага выканання.

3. Рэвербірацыя — /лац. reverbero- адкінуць/ — уласцівасць памяшканняў павялічваць моц і працягласць гукаў /так званы рэзананс/.

4. Рэгент — кіраўнік царкоўнага праваслаўнага хору.

5. Рэгістар — /лац. registrum - спісак, пералік/ — частка дыяпазону голасу, аб'яднаная падабенствам тэмбру на аснове аднароднасці гукавымання.

6. Рэзанатары — /ад лац. resono - адгукаюся/ — частка галасавога апарату, якая надае слабому гуку, што ўзнікае на галасавых звязках, моц, гучнасць, характэрны тэмбр.

7. Рэквіем — цыклічны вакальны або вакальна-інструментальны твор жалобнага характару тыпа кантаты або араторыі.

8. Рэпертуар — /ад лац. repertorium-спіс, вопіс/ — сукупнасць твораў, якія выконваюць на канцэртах або вывучаюць у працэсе заняткаў.

9. Рэпетыцыя — /лац. repetitio - паўтор/ — занятце, якое праводзіць дырыжор з выканаўцамі па падрыхтоўцы праграмы канцэрта.

10. Рэчытатыў — /ад іт. recitare - чытанне услых, дыкламаваць/ — род вакальнай музыкі, якая інтанацыйна і рытмічна ўзнаўляе бытавую або дэкламацыйную мову.

11. Рытм — /грэч. rytmos - суразмернасць, стройнасць/ — арганізацыйнасць музычных гукаў у іх часовай паслядоўнасці; адзін з галоўных выразных і формаўтваральных сродкаў музыкі. Р. ахоплівае арганізацыю працягласцей, акцэнтаў /што знаходзіць сваё выяўленне ў метры/. Выразнасць Р. звязана з тэмпам.

12. Рубата — /іт. rubato - выкрадзены, tempo rubato - выкрадзены час/ — рытмічна свабоднае выка-



нанне ў мэтах выразнасці /гл. Агогіка/.

—С—

1. Саліст — /італ./ - выканаўца сола.

2. Сальфеджыраванне - спяванне з назвай нот. Шырока ўжываецца ў хоры.

3. Санатная форма, санатнае алегра — муз. форма, заснаваная на супрацьпастаўленні і развіцці 2-х тэм /галоўнай і пабочнай/, выказаных у розных танальнасцях і аб'яднаных потым адзінай танальнасцю.

4. Сапрана — /ад іт. sopra - над, вышэй/ — 1/ самы высокі жаночы, дзіцячы /таксама дыскант/ голас. Дыяпазон ДО 1 актавы - ДО III актавы. Есць тры асноўныя разнавіднасці С.: драматычнае, лірычнае і калатурнае; 2/самая высокая партыя ў хоры або вакальным ансамблі; 3/ высокія па рэгістры разнавіднасці некаторых музычных інструментаў.

5. Секвенцыя — /лац. паходжання/ — паслядоўнае перамяшчэнне адной і той жа меладычнай або гарманічнай пабудовы ва ўзыходнім або сыходнім напрамку. С., якая праходзіць у адзінай танальнасці, завецца танальнай. Калі звёны С. выконваюцца ў розных танальнасцях — мадуліруючай.

6. Серэнада — /іт. serenata - яснае надвор'е, начная прахалода/ — першапачатковая назва розных п'ес, якія выконваліся ў знак ушанавання або кахання.

7. Сетка дырыжорская — цыкл /замкнуты комплекс/ рухаў рукі дырыжора, які адлюстроўвае метрычную пабудову такта.

8. Сінкопа — /грэч. скароч. адсячэнне/ — акцэнт на слабой долі такта, які ўзнікае з прычыны скарачэння моцнай долі або паўзы на ёй і падаўжэння слабой долі, а таксама — звязвання слабой долі з наступнай моцнай.

9. Сола — /іт. ад лац. solus - адзін, адзіны/ — 1/самастойнае выступленне адзінага выканаўцы; 2/найбольш выразная і важная партыя ў творы, якая выконваецца салістам або групай /спевакоў, інструменталістаў/; 3/найбольш выразны голас у якім-небудзь ўрыўку гамафоннага складу у ансамблійнай музыцы.

10. Спяванне, вакальнае мастацтва — выкананне музыкі голасам. Віды С. — сольнае, ансамблійнае /дуэт, трыо і г.д./, харавое /з інструментальным суправаджэннем або без яго — акапэла/. Жанры С. — опернае і камернае, а таксама — канцэртнае.

11. Строгі стыль — 1/ умоўная назва стылю, тыпічнага для харавой музыкі акапэла эпохі Адраджэння /ХУ-ХУ1 стст./; вызначаўся строгай рэгламентыйнасцю ладавых і рытмічных норм; 2/ адзін з раздзелаў курса паліфоніі.

12. Строй — 1/сістэма гукавысотных адносін - інтэрвалаў. У музыцы ўжываецца абмежаваная колькасць тыпавых інтэрвалаў; 2/частка настройкі эталона вышыні — камертона; 3/у прымяненні да музычных інструментаў тое самае, што гукарад.

13. Суправаджэнне - гл. Акампанемент. Страсці, пасіон /ад лац. пакута/ — твор тыпа араторыі для салістаў, хору, аркестра на рэлігійна-легендарны сюжэт пра пакуты і смерць Хрыста.

14. Сюіта — /фр. паслядоўнасць/ — цыклічная музычная форма, якая складаецца з некалькіх самастойных, кантрасных паміж сабой частак, аб'яднаных агульнай мастацкай задумай.

-Т-

1. Тактыраванне — /лац. tactus - дакрананне/ — паказ тэмпа і метра музычнага твора пры дапамозе дырыжорскай сеткі.

2. Танальнасць — канкрэтная вышыня галоўнага лада, якая вызначаецца высотным становішчам галоўнага тона /тонікі/.



3. Тон — /грэч. tonos - напружанне, націск/ — 1/гук, які мае пэўную вышыню, музычны гук; 2/мера для вызначэння велічыні інтэрвала; 3/ступень лада: 1 ступ. — галоўны, асноўны тон /тоніка/, П і УП ступ. — уводныя Т.; 4/гук акорда /Т.асноўны, тэрцовы і г.д./; 5/тэмбравая якасць гуку /Т.мяккі, светлы і г.д./; 6/тапальная настройка перад спяваннем хору.

4. Транспазіцыя — /лац.transpositio - перастаноўка/, транспаніраванне — перанос гукаў музычнага твора на азначаны інтэрвал уверх або ўніз. Пры кожнай Т. за выключэннем Т. на актаву змяняецца танальнасць твора.

5. Тэмбр — /франц. timbre - метка, адметны знак/ — афарбаванне гука; залежыць ад розных спалучэнняў абертонаў, вылучэння адных і маскіроўкі іншых.

6. Тэмп музычны — /лац. tempus - час/ хуткасць выканання метрычных доляў. Т. вызначае абсалютную хуткасць выканання п'есы у адрозненне ад адноснай хуткасці, звязанай з рытмічнымі адносінамі. Т. абазначаецца словамі /часцей за ўсё італьянскімі тэрмінамі/.

7.Тэнар — /іт. ад лац. teneo - трымаю/ — 1/ у сярэднія стагоддзі асноўны голас кантрапунктычнага твора, які выказвае галоўную мелодыю. Дыяпазон ДО мал. актавы - ДО П актавы. Асноўныя разнавіднасці Т.: лірычны, драматычны і рэдкі Т. альтына.

8. Тэнута — /іт.tenere - трымаць/ — вытрымана, дакладна на працягласці і роўна па моцнасці. Выяўляецца рыскай над або пад нотай.

9. Тэсітура — /іт.tessitura- тканіна/ — высотнае становішча гукаў мелодыі па адносінах да дыяпазону голаса або інструмента. У залежнасці ад пераважнага ўжывання тых або ін-

шых гукаў Т. бывае высокая, сярэдняя /
/найбольш зручная для спявання/, нізкая.
Выкарыстанне тэсітурных умоў — адзін
са сродкаў выразнасці.

10. Тутці — /іт. tutti – усе/ — выкананне музыкі усім саставам аркестра, хору.

-У-

1. Уводны тон — няўстойлівы гук лада, размешчаны на ступень вышэй або ніжэй за тоніку.

2. Унісон — /іт. unus ад лац. – адзін і sonus гук/ — аднačасовае гучанне 2-х або некалькіх гукаў адной і той жа вышыні. Актаўны унісон — спалучэнне аднолькавых гукаў у розных актавах.

-Ф-

1. Фактура — /лац. factura – апрацоўка, ад facio – раблю/ — сукупнасць сродкаў музычнага выкладання, якое ўтварае тэхнічны склад твора, яго музычную тканіну. Элементамі Ф. з'яўляецца мелодыя, бас, акорды, фігурацыя, асобныя галасы, вытрыманыя гукі і інш. Асноўныя формы Ф. — музычныя склады: манадычны /аднагалосны/, паліфанічны, падгалосачны, акордавы, гамафанічны.

2. Фальцэт — /іт. falso – хлуслівы/, фістула — адзін з рэгістраў пеўчага голасу пераважна мужчынскага, у якім выкарыстоўваецца толькі верхні /галоўны/ рэзанатар, ізаляваны ад груднога.

3. Фанацыя — /грэч. phōnē – гук/ — гл. Гукаўтварэнне.

4. Фарманта — /лац. formans – утваральны/ — у акустыцы прытук пэўнай частаты, які надае гучанню голасу і інструмента характэрны для іх тэмбр.

5. Фарсіраванне гука — напружанае, крыклівае спяванне, якое адбываецца ад празмернага напору павет-



ра на галасавыя звязкі, ад выканання высокіх гукаў без "прыкрыцця".

6. Фермата — /іт. fermata – прыпынак/ — знак працягласці гуку /акорда/ або паўзы на нявызначаны час, які падказвае музычнае пачуццё выканаўцы.

7. Фестываль — /лац. festivalo – вясёлы, святочны/ — музычнае свята, якое складаецца з серыі канцэртаў, паказаў.

8. Форма музычная — 1/сукупнасць музычна-выразных сродкаў, якія ўвасабляюць ідэйна-мастацкі змест твора. Адпаведнасць зместу і Ф. — найважнейшая ўмова мастацкасці твора. Да элементаў Ф. адносяцца мелодыя, гармонія, рытм, фактура, дынаміка, агогіка, у харавых творах элементы харавой гучнасці; 2/музычная форма ў вузкім сэнсе — структура твора. У харавой музыцы: перыяд, 2-частковая і 3-частковая Ф., куплетная, варыяцыйная, ронда, санатная, страфічная, паліфанічная і цыклічная Ф.

9. Фразіроўка — выразнае мастацка-сэнсавае вылучэнне музычных фраз і іншых пабудоў пры выкананні музычных твораў.

10. Фуга — /лац. fuga – бег/ — форма паліфанічнага твора, якая заснавана на імітацыйным правядзенні адзінай, радзей 2-х і больш тэм ва ўсіх галасах па дакладным танальна-гарманічным плане.

11. Фугата — паліфанічны эпізод або частка музычнага твора ў выглядзе экспазіцыі фугі.

-Х-

1. Харавая партыя — 1/група аднародных галасоў у хоры, якія выконваюць ва ўнісон сваю мелодыю — частку харавога твора; 2/кожны голас харавой партытуры.

2. Харавое спяванне /харавое мастацтва/ — калектыўнае выкананне вакальнай музыкі; адносіцца да старадаўніх відаў музычнай культуры народнай творчасці.

3. Хоразнаўства — спец. прадмет, які вывучае тыпы і віды хароў, састаў харавых партый, элементы харавой гучнасці і іншыя сродкі мастацкай выразнасці, рэпетыцыйны працэс, арганізацыйныя пытанні.

4. Харал — рэлігійнае спяванне ў каталіцкай і пратэстанскай цырквах.

5. Хармайстар — /ад слова хор і ням. Meister - майстар/ — кіраўнік хору: опернага, харавой групы ансамбля песні і танца.

6. Хор— /грэч./— 1/у старажытнагрэчаскім тэатры — калектыўны ўдзельнік спектакля: група выканаўцаў, якія сумесна спяваюць; 2/пеўчы калектыў, які выконвае вакальную музыку. Х. акадэмічнага тыпу складаецца з харавых партый; такім чынам, па гучанню з'яўляецца ансамблем унісонаў. Па тыпу-складу галасоў Х. бываюць аднародныя /мужчынскія, жаночыя, дзіцячыя/ і змешаныя, якія складаюцца з 4-х асноўных партый: сапранаў /дыскантаў/, альтоў /жаночых, дзіцячых галасоў/, тэнараў, басоў; бывае таксама няпоўны Х. 3/музычны твор, які прызначаны для выканання пеўчым калектывам.

—Ц—

Цэзура — грань паміж часткамі музычнага твора; выконваецца ў выглядзе кароткай паўзы, часта суправаджаецца /у спяванні/ зменай дыхання. Месца Ц. звычайна вызначаецца выканаўцай, але часам называецца кампазітарам пры дапамозе спецыяльнага знака /"галачкі"/, коскі або сканчэннем лігі.



Вучэбнае выданне

Слоўнік вакальна-харавых тэрмінаў

Складальнікі: СімаНоўская Ірына Міхайлаўна
Собалеў Уладзімір Уладзіміравіч
Мордас Наталля Расціславаўна

Падпісана ў друк 28.09.92. Фармат 60 84 1/16. Папера друк. № 2. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 2,18 /2,92/. Ул.-выд. арк. 1,5. Тыраж 70 экз. Заказ 345. Цана 1 р.

Ратапрынт МДПІ імя А.М.Горкага. 220809, г. Мінск, вул. Савецкая, 18.

